# РЫХТУЙЦЕСЯ ДА ДНЮ ЎРАДЖАЮ.

Неўзабаве надыходзіць адно з важных сьвятаў нашай вёскі—гэта сьвята ўраджаю.

Дні ўраджаю мінулых гадоў паказалі, што піонэры і атрады цалкам адыгрываюць у правядзеньні іх не малую ролю. Разам з сваімі бацькамі-гаспадарамі нясуць свае рэчы, экспонаты і яны на выстаўку, каб паказаць тут, што яны і як зрабілі. Выгадаваныя піонэрамі цёлкі, курачкі, трусы, вырашчаныя імі кораньплоды, капуста і г. д. вельмі часта атрымлівалі прэміі, пахвалы з боку ўсіх грамадзян і савецка-партыйных установ.

У гэтым годзе піонэры павінны таксама яшчэ больш падрыхтаванымі спаткаць гэты дзень.

Як-жа рыхтавацца да сьвята ўраджаю і што рыхтаваць?

Трэба ўжо цяпер, зараней пачаць гэту працу. На зборах зьвеньняў і атрадаў трэба абмеркаваць, хто і што можа даць на выстаўку. Усе намечаныя да выстаўкі рэчы трэба колектыўна (зьвяном ці асобнай камісіяй) агледзець. Варта і неабходна дагаварыцца аб усіх экспонатах з ячэйкай ці з мясцовым с.-г. гуртком. Яны шмат чым вам у гэтым дапамогуць.

Рыхтаваць рэчы да выстаўкі можна шмат якія.

### Па жывёлагадоўлі.

Сюды павінны ўвайсьці правільна выгадаваныя жывёлы, якія так ці інача розьняцца ад іншых, выгаданых у другіх умовах. Такую жывёліну трэба паказаць усім, каб і ўсе маглі скарыстаць вопыт гадоўлі. Поруч з гэтым неабходна даваць дакладныя запісы аб тым, як гадавалася даная жывёла, колькі корму на яе патрачана, колькі работы. Усё гэта можна перадаць у выглядзе асаблівай таблічкі. Яе злажыць ня цяжка. Шмат якія піонэры такія запісы вялі цэлы год. Вось іх то і трэба скарыстаць.

Разам з жывёламі варта паказаць на выстаўцы і прылады, якія зьяўляюцца для насельніцтва новымі і якія служылі для кармленьня жывёлы. Скажам, нядаўна ў нас друкаваўся допіс піонэра аб тым, як ён зрабіў кармушку для курэй. Вось гэта і ня лішнім будзе паказаць разам з курыцай. Некаторыя робяць другія карысныя і мала пашыраныя прылады. Усё гэта трэба паказаць.

### Па агародніцтву.

Трэба перш за ўсё злажыць колекцыю ад кожнай гародніны ці садовіны па некалькі штук.

Да гэтай колекцыі на асобных паперках да кожнай гародніны напішэце, колькі якой гародніны пасеяна, як угноена была зямля, які атрымалі ўраджай.

### Па ахове прыроды.

Гэта можа быць самым цікавым кутком. Усе тыя шпакоўні, кармушкі, хаткі, лёзунгі, якія рабілі піонэры, змогуць знайсьці сваё месца ў гэтым кутку. Трэба паказаць у гэтым кутку, як піонэры адносяцца да карысных птушак, як клапоцяцца аб іх. Варта таксама тут-жа паказаць, як адносяцца да птушак хуліганы, якімі прыладамі зьнішчаюць іх.

Апрача пералічаных вышэй рэчаў, можна даць шмат чаго: гадоўля курэй, ручныя працы дзяўчат-піонэрак, мастацкія плякаты, дыяграмы, насьценгазэты і інш.

Аб усім гэтым трэба толькі зараней падумаць, усё дакладна абмеркаваць і праверыць разам з ячэйкай.

---

### Зьмест.



Ліногравюра на першай стар. вокладкі мастака Вало.

---


Рэдколегія: Г. БРЫГНЕВІЧ, С. ЖУРАЎСКІ, М. МАМЧЫЦ, А. ПЯКАРЧЫК, А. ЯКІМОВІЧ.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 16** **ЖНІВЕНЬ** **1927 г.**



## Маленькая работніца.

Ўсе на поле ўлетку высыплюць з расой:
Хто з сярпом крывенькім, а хто йдзе
з касой.
Там згінаюць плечы, праца там кіпіць,
Забываюць есьці, забываюць піць.
Адна толькі Сонька, нібы салавей,
Ходзіць, расьпявае ля хаткі свае;
Расьпявае песьні, парадак вядзе,
Нібы тая птушка у сваім гнязьдзе.

Прыбярэ надворак, чыста замяце,
Накапае бульбы на сваёйградзе,
Ды нарве цыбулькі,—трэ' спаткаць
гасьцей,
Што працуюць шчыра летні доўгі дзень.
Вымые анучы, міскі ды гаршкі,—
Што ўцячы пасьмее ад яе рукі!
Цешыцца матуля—ой, ды яшчэ й як!—
Падрасьце—і ў полі першая жняя!




Апавяданьне **Н. Беліна-Падгаецкага.** Малюнкі і ліногравюры **Вало.**

— Гэй, адчыняй! Паліцыя!—пачууся грубы стук паліцэйскіх кулакоў у тоненькія дзьверы аднаго з вялізных дамоў у рабочым квартале Парыжа. Гэты стук нарушыў цішыню цёплай летняй ночы, прымусіў спалохана ўсхамянуцца сям'ю працаўніка, якая пасьля цяжкага працоўнага дня спала моцным сном.

— Чаго з імі цырымоніцца, ламі дзьверы і ўсё,—чуваць быў загад начальніка.

Пад націскам пары шырокіх плячэй агентаў дзьверы з трэскам паляцелі ў сярэдзіну пакою, дзе ўся сям'я Альдонса Прэва, сталяра на адной з фабрык Парыжа, зьбіўшыся ў кучу, з жахам глядзела на гэта нечаканае для іх нападзеньне.

— Вы Альдонс Прэва, сталяр з фабрыкі аэроплянаў?—задаў пытаньне старэйшы паліцэйскі.

— Так, гэта я,—адказаў рабочы.

— Апранайцеся і йдзеце за намі!

— Але чаму і па якому праву вы ўначы ўрываецеся ў мой пакой?

— Маўчаць!—зарыкаў паліцэйскі, накіроўваючы на Прэва рулю свайго браўнінга:—ды жвавей трохі, а не, дык мы самі паможам вам апрануцца!..

Праз некалькі хвілін, ледзь даўшы магчымасьць Альдонсу разьвітацца з хвораю жонкаю і дзеткамі, заціснуўшы яго чэсныя мазолістыя рукі ў моцныя сталёвыя наручнікі, паліцэйскія накіраваліся да выйсьця, у той час, як іх начальнік з некалькімі сакрэтнымі агентамі францускага вышукнога аддзяленьня ўзяўся рабіць самы падробны вобыск у пакоі. Вобыск, між іншым, ня даў для паліцэйскіх ніякіх станоўчых вынікаў.

* * *

Прайшоў месяц з той ночы, калі, абвінавачаны ў экономічным шпігаваньні на карысьць СССР, Альдонс Прэва быў арыштаваны паліцыяй і пасаджаны ў турму Санто, хаця ніякім ані-ні шпігаваньнем ён не займаўся і ніякіх колькінебудзь сур'ёзных довадаў супроць яго ня было, і хаця ён, не перастаючы, казаў, што зусім не вінаваты, протэстуючы супроць грубога гвалту над ім. Але Альдонс быў актыўным комуністым і дзейным сябрам рэволюцыйнага профсаюзу будаўнікоў Францыі, а гэта, як вядома, буржуазнаю грамадою ніколі не даруецца. І так прайшоў ужо цэлы месяц з таго моманту, калі грубымі паліцэйскімі рукамі быў вырваны з сваёй сям'і адзіны яе кармілец, і перад маладым чатырнаццацігадовым Густавам Прэва з усёй яго трагічнасьцю стала пытаньне, як быць далей, што рабіць, каб падтрымаць існаваньне сваёй хворай, амаль што паміраючай ад сухотаў маткі і сваіх малых братоў і сястрыц, якіх было досыць такі шмат.

— Густаў, на твае рукі я пакідаю тваю матку і дзетак,—сказаў яму пры разьвітаньні бацька.—Помні, што акрамя цябе, спадзявацца ім больш няма на каго!

Гэтыя словы бацькі моцна заселі ў галаве маладога Густава, і ён цьвёрда рашыў, ня гледзячы на свае юныя гады, прылажыць усе патугі, каб ні хворая маці, ні дзеці ні ў чым ня мелі нястачы. Першыя часы, дзякуючы атрыманаму ў канторы фабрыкі апошняму заробку бацькі, і яго, Густава, там службе пасыльным, сям'я магла яшчэ з грахом

папалам існаваць, але скора мізэрная ў агульным двухтыднёвая палучка прышла к канцу і тады для ўсёй сям'і Прэва з усёй яго сур'ёзнай складанасьцю стала пытаньне аб далейшым існаваньні. А тут яшчэ як на грэх сам Густаў астаўся бяз працы, пазбавіўшы тым самым сваю сям'ю нават мізэрнай штомесячнай пэнсіі.

— Нам ні шпігоў ні іх дзяцей на фабрыцы непатрэбна!—груба заявіў яму дырэктар, калі Густаў прышоў з ім пагаварыць аб прычыне свайго зусім нечаканага для яго звальненьня, — ды помні, каб і нагі тваёй ня было ў раёне фабрычных памяшканьняў, калі ня хочаш і сам пазнаёміцца з паліцэйскім вучасткам!

— Але-ж, пане дырэктару,—ціха заўважыў Густаў, чуць стрымліваючы рыданьні,—звальняючы мяне са службы, вы кідаеце і маю хворую маці, і ўсю нашу сям'ю на галадоўку!



—Зьвярнецеся ў Маскву да бальшавікоў!..

— Якая мне да ўсяго гэта справа,—пацінуў плячыма шаноўны наймит буржуазіі, сам таксама, вядома, досыць буйны акцыянэр прадпрыемства, і, насьмешліва паглядваючы на зусім прыціснутага горам Густава, дадаў:—зьвярнецеся ў Маскву да бальшавікоў. Яны вам дапамогуць!

* * *

Доўга і ўпарта шукаў Густаў другой службы альбо якіх-небудзь заработкаў, абыходзячы ўсе заводы, фабрыкі і прадпрыемствы, зьвяртаючыся за дапамогаю да знаёмых і быўшых бацькавых саслужыўцаў, згаджаючыся на ўсе ўмовы, молячы, просячы і патрабуючы дапамогі сваёй сям'і, якая галадала і адчувала патрэбу ў самым неабходным для жыцьця,—але ўсё бяз вынікаў. Адны патрабавалі атэстацыю з апошняга месца яго службы, а якую-ж атэстацыю мог прадставіць ён—сын комуністага, які сядзіць у турме. Другія толькі сьмяяліся над яго малым ростам і адсутнасьцю вялікай фізычнай сілы. Трэція проста не хацелі з ім нават і гаварыць. А між тым становішча сям'і Прэва рабілася ўсё горшым і горшым. Гаспадар за тое, што не плацілі, выганяў з кватэры, крамнік і булачнік адмаўляліся даваць у доўг тавары і хлеб, здароўе маці пагоршылася, патрэбен быў доктар і зельле, а на гэта ўсё неабходны былі сродкі, дзеля таго, што ў краінах капіталу няма тэй шырокай сыстэмы соцыяльнага забясьпечаньня, як у нас, у Савецкім Саюзе, па каторай кожны рабочы, кожны працоўны з усёй сваёй сям'ёй карыстаецца правам бясплатнага лячэньня і мэдыцынскай дапамогі. Маці горка плакала, уткнуўшыся ў падушкі, іншы раз спрабуючы падняцца з пасьцелі і, ня гледзячы на свой цяжкі стан здароўя, пайсьці самой да багатых людзей мыць падлогу ці бялізну. Але кожны раз нястрыманы кашаль і страшэнны боль у грудзёх прымушаў яе зноў цягнуцца да пасьцелі і падаць на падушкі, праклінаючы і сваю слабасьць, і людзкую жорсткасьць, і сваё цяжкае існаваньне, якое так няўдала склалася. Дзеці плакалі, просячы есьці чаго-небудзь, і ўсё гэта цяжкім каменем клалася на душу Густава, прымушаючы яго напружваць яшчэ больш патугі ў шуканьнях працы, прымушаючы яго згаджацца на ўсе самыя цяжкія і лютыя ўмовы,—каб толькі ня чуць больш гэтага плачу, каб толькі ня бачыць гэтых ручак, што так прагна цягнуцца да хлеба, каб хоць трохі заспакоіць матку, якая пакутвала і нэндзілася без дапамогі на пасьцелі. А тут яшчэ трэба было наведваць у турме бацьку, прыносіць яму сёе-тое, самае неабходнае, лгаць яму, што ўсё ідзе добра, што маці папраўляецца, што дзеці падʼеўшы і вясёлыя, што ён, Густаў, працуе

ўсё таксама як і раней пасыльным на заводзе.

І гэткая злосьць, гэткая нянавісьць да гэтай самай буржуазіі, да ўсіх гэтых багатых людзей, якія нічога ня робяць, да віноўнікаў усіх яго і яго бацькі і маткі, і дзяцей пакутаў, паступова пранікала ў яго яшчэ дзіцячую душу так, што Густаў міжвольна сьціскаў кулакі, а з яго перасохлага ад голаду рота вырываліся словы роспачы і праклёнаў.

— Тады я можа-быць, бадай і змагу цябе ўладзіць, калі ты захочаш працаваць з намі.

— А дзе гэта?—асьцярожна спытаў Густаў.

— Прыходзь сёньня ў дзевяць гадзін увечары ў кафэ старога Жозэфа, што на рынчачнай вуліцы,—сказаў Андрэй і паціхеньку дадаў:—у таго тоўстапузага поўная каліта банковых білетаў і мы зможам там пажывіцца.



Калі ён убачыў маленькіх—Франсуа, Жозэфіну і Мар'ю, якія прагна біліся за сухую скарынку хлеба...

* * *

— Гэй, Густаў, здароў, як пажываеш?—вясёла гукнуў Андрэй, загараджваючы дарогу Густаву, які яго не заўважыў.

Пра Андрэя ў квартале хадзілі вельмі брыдкія чуткі. Гэта быў здаравенны хлапец, гадоў семнаццаці ад роду, задзіра ды буян, ня раз ужо меўшы справу з паліцыяй, і галава шайкі зладзеяў з кішэні, праўда, яшчэ ні разу, здаецца, на месцы кражы не захоплены. Густаў, які ведаў яго яшчэ са школьнай лаўкі, з ім знаёмства ніколі не падтрымліваў, хаця Андрэй чамусьці ўсімі сіламі дамагаўся ўжо даўно, каб Густаў быў з ім шчырым і даверлівым.

— Ну, як справы?—паўтарыў сваё пытаньне Андрэй, зьвяртаючыся зноў да Густава:—кажуць, бацька твой усё яшчэ сядзіць у кутузцы?

— Так, як ні шкода, гэта праўда,—уздыхнуў Густаў.—А я вось ужо колькі дзён як дарэмна шукаю хоць якіх-небудзь заработкаў.

— Ты шукаеш заработкаў?—запытаўся Андрэй і ўважліва ўзгляінуў у вочы Густаву.—А якой працы, дазволь цябе запытаць?

— Ды мне гэта ўсё роўна, каб толькі гэта дало мне грошы, у якіх я вельмі цяпер адчуваю патрэбу,—адказаў Густаў.

— Ты ашалеў, калі прапануеш мне што-небудзь падобнае!—злосна крыкнуў Густаў і борзда пайшоў дадому.

— Як хочаш, Густаў,—закрычаў яму ў сьлед Андрэй,—але не забудзься быць роўна ў дзевяць у кафэ старога Жозэфа!

* * *

— Не, я не пайду туды ні за што,—гаварыў сабе Густаў, падымаючыся па скрыпучых і заплёваных сходах да сябе на мандардугале. Калі ён увайшоў туды, калі ён убачыў худы, змучаны твар маткі, якая з поўзаплюшчанымі вачыма ляжала на пасьцелі, калі ён убачыў маленькіх—Франсуа, Жозэфіну і Мар'ю, якія прагна біліся за сухую скарынку хлеба, выпадкова знойдзеную на вуліцы, калі ён уведаў, што гаспадар дому зноў прыходзіў да яго маці і зноў патрабаваў грошай,—тады Густаў махнуў рукою на

ўсе свае сумненьні, цьвёрда парашыў у дзевяць гадзін вечару пайсьці на спатканьне з Андрэем...

* * *

Гэта было ў нядзелю, а дзеля таго кафэ старога Жозэфа было ўжо чуць не ад поўдня бітком набіта самай рознашэрстнай і ўжо амаль што пагалоўна п'янаю публікаю.

Густаў вось ужо добрых двaццаць хвілін як таптаўся каля ўваходных дзьвярэй, хістаючыся яшчэ, ці ісьці яму на спатканьне з Андрэем, ці ўсё-ж супакойна вярнуцца дахаты... да галадаючых дзяцей. Нарэшце, заўважаны з унутры Андрэем і саромяючыся паказаць перад ім свае хістаньні, Густаў рэзкім рухам рукі адчыніў уваходныя дзьверы і, насунуўшы на вочы сваю зацухмоленую касткетку, цьвёрдымі крокамі накіраваўся праз усю залю ў куток, дзе за некалькімі пляжкамі чырвонага віна сядзела кампанія Андрэя.

— Ну, што, усё-ж прышоў,—сказаў апошні, падаючы руку Густаву,—вось і добра! І, зьвяртаючыся да іншых, дадаў у паўголаса:—Наш новы таварыш,—прашу любіць ды жалаваць!

А пасьля пайшло як у сьне, як у якімсьці тумане. Шмат пілі, галдзелі, крычалі, скакалі. Пасьля ў якімсьці кутку хтосьці кагосьці ўдарыў парожняю пляжкаю па галаве, той назад і завязалася крывавая бойка, якая скора перайшла ўва ўсеагульную патасоўку ўсіх прысутнічаючых.

— Поліцыя, поліцыя, ратуйся хто можа!—раптам, як маланка, праімчалася па натоўпу, і ўсе, пхаючыся, абварачваючы сталы і лаўкі, кінуліся да выйсьця на вуліцу.

— Вось каліта з грашыма,—шапянуў Андрэй Густаву, мімаходам засоўваючы яму ў кішэнь якійсьці скрутак:—бяжы дахаты і схавай як належыць дзе-небудзь у добрым месцы. Але толькі ня выдавац, што-б там ні трапілася. І ён зьнік у натоўпе люду, што разьбягаўся ў розныя бакі.

* * *

У ліку многіх іншых, ня ўспеўшых схавацца, арыштавалі і Густава, прычым пры вобыску ў яго ў кішэні была знойдзена каліта гаспадара рэсторана з адным стофранкавым білетам у сярэдзіне, хаця стары Жозэф і ўпэўніваў поліцыю, што ў гэты вечар у яго ў каліце знаходзілася каля трох тысяч франкаў новенькімі банкавымі білетамі. Густаў адразу здагадаўся ў каго знаходзяцца гэтыя грошы, зразумеў ён і здрадніцкую ролю, сыграную тут Андрэем у хвіліну небясьпекі, але свайго выпадковага кампаньёна ня выдаў, лічачы сябе ўсё-ж зьвязаным дадзеным яму словам. І вось засадзілі і Густава ў турму, а пасьля „справядлівым“ буржуазным судом засудзілі на пяць год у „папраўчую“ колёнію для недарослых злачынцаў, адкуль ён ужо выйдзе дасканала гатовы на любую кражу, на любы злы ўчынак.

Так цячэ жыцьцё ў краінах капіталу, дзе ў пагоні за прыбыткам, у пагоні і сьціганьнях за ненавіснымі ім комуністымі, буржуі і капіталістыя не шкадуюць ні жанчын, ні дзяцей, адрываюць бацькоў кармільцаў ад іх сям'і, кідаюць іх у турмы, пакідаючы сем'і іх, часта вельмі бедныя і вялікія, без дапамогі і без падтрыманьня.






*(Народная казка)*

*Багата зლажыў народ Беларускі казак, апавяданьняў, лягэндаў пра сваё горкае жыцьцё і барацьбу ў часе пякельнага прыгону. Уявіць сабе жыцьцё нашых дзядоў і бацькоў мы лепш за ўсё можам толькі па шчырай і непараўнальнай па мастацтву народнай творчасьці.*

*Адзін з такіх твораў мы і зьмяшчаем у часопісі.*

Слухайце, бо скажу вам ня казку, а шчырую праўду.

Дзе тое было, цяпер я забыўся, бо ўжо, бачыце,—старасьць. А, ведама, калі з чупрыны гінуць валасы, то і памяць з галавы От я забыўся, што сягоньня абедаў, ня памятаю, а мо' і нічога. Трапляецца гэтак. Кажуць-жа: часам з квасам, а парою з бядою, ці бо—з вадою.

Цяпер на ліха жаляцца, а даўней было гарэй. Вы таго ня памятаеце. Ня вельмі даўно тое было, яшчэ за паншчыну. За паншчынай было добра, калі трапляўся добры пан. Але дзе траплялісія такія добрыя паны? Больш былі не паны, а зьвяр'ё паганае. Як трапіцца такі паганы пан, то хоць лажыся ды і памірай. Нічым яму ня ўгодзіш. Кажуць-жа: зачыні чорту дзьверы, то ён праз вакно. Гэтак і люты пан. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць: ня так, шэльма, ня так, галган, ня так, псякрэў,—і есьць цябе поедам, есьць, зьневажае, зьдзекуецца. А чуць што, — жыўцом шкуру злупіць.

Ой, цяжка, вельмі цяжка было за лютымі панамі. А ліхія паны былі амаль усе.

Вось-жа ў адным двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вычвараў. Як толькі ён не назьдекваўся над людзьмі. Сек ён і мужыкоў, і баб, старых і маладых. Не аднаго ён засек на сьмерць і нікога не баяўся. А людзей ён лічыў гарй сабак. Ня мог той паганы пан ужо больш нічога прыдумаць, каб пазьдзеквацца над людзьмі. Вось і вялеў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валоў толькі ў двор. А па канцох сяла паставіў рагаткі да і не пазваляў праехаць к мужыком ніякаму купцу. Вось і павялі людзі ў двор валоў на продаж. Але прывядзе хто вала, а пан і кажа: „Што-ж ты прывёў, асёл, гэта-ж ня вол, а казёл". І заплаціць, бы за казла, а то яшчэ пашле на стайню ды ўсыпле.

Доўга мучыліся бедныя мужыкі з такім паганым панам. Доўга цярпелі, бо што зробіш, каму пажалішся? Ведама, паны за панамі і цягнуць.

Але вось знайшоўся адзін чалавек, што адплаціў таму пану за ўсе людзкія сьлёзы ды за крыўду.

Вось як тое было: быў там удалы, здатны хлопец. Рана ён асірацеў, але і адзін узьбіўся-такі на гаспадарку. Горды быў хлопец. Ніхто яго ніколі і пальцам не зачапіў. Толькі вось ён прыводзіць у двор на продаж вала. Убачыў пан, вышаў на ганак, дый кажа: „Што-ж ты прывёў, асёл, то-ж ня вол, а казёл“. Паглядзеў той дзяцюк, што блізка нікога няма каля пана, паказаў яму паплíску, да і пытае: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я-ж прывёў табе вала, не казла“. І давай пярэсьціць,



Вось табе, пане. за тое. што ты людзей мучыш!

давай дубасіць пана тою паплíскаю. Рэзаў, рэзаў, пакуль сам здаволіўся. „Вось-жа табе, пане, за тое, што ты людзей мучыш.

Калі вычухаеш гэта, то чакай мяне яшчэ трэцім разам, тады я здыму з цябе скуру“. Сказаў гэта дзяцюк да і ўцёк у лес. А, ведама, якія даўней былі цёмныя да густыя лясы. У іх жыві колькі хочаш, ніхто на цябе ня трапіць. Нашла дворня пана бяз памяці—так яго вымясіў той дзяцюк.

Толькі на трэці дзень трохі ачухаўся пан і вялеў злавіць Рымшу—так звалі таго дзяцюка. Ды куды там, яго і сьлед ветрам замяло. Амаль тыдняў сем пракачаўся пан,

чуць чорту душу не аддаў. Якіх толькі дактароў не справаджалі— нічога не парадзяць, бо яму, мабыць, Рымша адсадзіў печанцы. А што ўложыць хам, таго ня выйме й пан.

Але вось па нямалым часе прыехаў у двор якісьці вэнгэрац. У яго ўсялякіх зельляў, усялякае лякобы. Рад пан, чапкуе, просіць таго вэнгэрца, каб яго палячыў. Пагасьцяваў вэнгэрац у двары да і давай лячыць пана. Вялеў гэта ён напаліць лазьню. Павёў пана туды. Пасадзіў яго на лаўцы да і казаў аберучкі дзяржацца за жэрдачку, а сам пачаў націраць пана ўсялякімі мазямі. Сядзіць пан, трымаецца аберучкі за жэрдачку і толькі крэхча. Але нядоўга ён так сядзеў: выцягнуў вэнгэрац з кішэні сырамяць, прывязаў ім к жэрдачцы панскія рукі, заткнуў пану вехцем горла, узяў хварасьціну дый кажа: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я-ж прадаў табе вала, не казла“.—Бачыць пан, што гэта Рымша, а не вэнгэрац, хоча крычаць, да ня можа, бо вехаць у роце. Круціцца пан, бы ў'юн на гарачай скаварадзе, а Рымша дастаў з-пад палы канчук і давай хрысьціць паганага пана па чым папала. Лупіў, лупіў, амаль ня ўсю скуру садраў, да і давай пасыпаць пана сольлю. Самлеў пан ад болю. А Рымша сеў на коняй ды паехаў сабе. Толькі яго і бачылі.



Што гэта, бяроза ці лаза?

Доўга хварэў пан, чуць не паўгода пракачаўся. Усе думалі, што ўжо яму прышлі канцы, але ліхога і сьмерць не бярэ: к вясьне трохі вычухаўся пан і хацеў ехаць заграніцу на воды, да бачыць і грошай няма. Задумаў ён прадаць лес. Пайшла пагаласка, і пачалі купцы аглядваць лес. Таргаваліся яны, таргаваліся, да ня сходзяцца аб цану, бо пан вельмі даражыўся. Толькі вось прыехаў якісьці вельмі багаты купец. Павёў яго пан аглядзець лес. Хваліць пан лес, а купец толькі ўсё адводзіць пана ў гушчарню да ў нетру. Забраліся яны ў такую гушчэчу, што і сьвету божага ня бачна. Купец давай абнімаць хвоі, сажнем мерыць таўшчыню. Абхапіў і пан адну хваіну, а купец хуценька выхапіў з кішэні вяроўку да і прывязаў пана к хвоі. Бачыць пан, што тут не пярэліўкі і хацеў крычаць, зваць на ратунак, але так спалохаўся, што

няма голасу. Паказаў яму купец паплiску да й пытае: „Што гэта, бяроза цi лаза? Я-ж, кажа, прадаў табе вала, не казла“. Дагадаўся пан, што гэта Рымша. Тымчасам Рымша запхаў пану мохам рот да i давай пярэсьцiць па чым папала, да прыказваць, каб больш ня зьдзекваўся над людзьмi. Бiу, бiў Рымша пана—чуць на сьмерць не забiў, да так i кiнуў прывязаным к хвоi, бы падла. Так да вечара i ўсю ноч правiсеў пан на хвоi, пакуль дворня найшла.

От тут ужо пан цэлы год пракачаўся: усё ня можа выздаравець. Няма ачунку; вось i радзяць пану ехаць на воды. Тымчасам прадаў гэта пан лес, прадаў збожжа ды гавяду. Сабраў многа грошай да i давай выладжвацца на воды. Тымчасам Рымша ўсё цiкуе за панам. Толькi пан выехаў з двара ды ўехаў у лес, як Рымша ўжо зрабiў на яго пастку. Паставiў ён на дарозе ганоў на трое адзiн ад другога двух конных хлапчукоў з доўгiмi паплiскамi. Толькi пад‘ехаў пан, як першы хлапчук трасе паплiскай да i крычыць: „Што гэта, пане, бяроза цi лаза?“ А сам па канi да наўцекача. „Лапайце, лапайце,—крычыць пан,—то-ж галган Рымша“. Хурман адрэзаў пастромкi, сеў на каня да i пагнаўся за хлапчуком. Але той сунуў у лес i чорт ведае куды дзеўся, а хурман папёр дарогаю ўперад мо‘ вярстоў дзесяць. Тымчасам заехаў упярод перад панам другi хлапчук, паказаў паплiску да i пытае: „Што гэта, пане, бяроза цi лаза?“ „Лапай, лапай, яго, галгана,—крычыць пан на лёкая,—то-ж Рымша“. Ускочыў лёкай на другога каня да i пагнаўся за хлапчуком. Астаўся пан адзiн. Тут Рымша высунуўся з-за дрэваў да i паказаў пану паплiску: „Што гэта, пане, бяроза цi лаза? Я-ж, кажа, прадаў табе вала, а не казла“. I давай дубасiць да перыць пана тэю паплiскаю. Зьбiў Рымша пана на горкае яблыка, забраў усе грошы да i пашоў сабе ў лес у сваю зямлянку. Кажуць, потым Рымша многа дабра рабiў людзям. Яшчэ да гэтых часоў у цёмным лесе сярод балота стаiць гара. Яе называюць Рымшаваю гарою.

---

## Ой, у полi шумiць вецер

*Ой, у полi шумiць вецер сонцавейны,*
*што навеяў лета з кветкамi й травой.*
*З поля жытняга нясецца пах павеўны;*
*ў сэрца льлецца ён крынiцаю жывой.*
*Пiонэры, комсамольцы дружным строем*
*на палянцы, дзе чупрынай*
*лес трасе,*
*завiхаюцца над сенам*
*шумным роем.*
*Бляскi зорацца*
*у пацерках-расе.*
*А за рэчкай зьзяюць нiвы*
*залатыя,*
*жыта сьпелае*
*хвалюецца наўкол.*
*Жнуць там жыта комсамолкi*
*маладыя,*
*песьняй ядрана-вясёлай*
*звонiць дол.*
*Зарунела, заквiтнела*
*буйнай кветкай*
*жыцьцё новае*
*па вёсках, гарадох.*
*Заiскрыўся край наш раньнем*
*агняцьветным;*
*сьвет стары даўно*
*ў бяздоньне трупам лёг.*

**Я. Iвашын.**

# Ці можна перамацаваць прыроду

*(З падарожнага блёк-ноту).*

Ай-Петры—гэта адна з самых вялікіх верхавін горнага ланцуга Крыма—Яйлы. Больш за вярсту ўвышкі крутым адкосам узьнімаецца яна над квітнеючай узьбярэжна-морскай Таўрыдай*) і стаіць так голай, нялюдзімай гордая скала і любуецца веліччу вакольнай прыроды. Уніз ад яе, у бок мора—раскошныя пахучыя сады—адны з буйнейшых курортаў СССР, кіпучае жыцьцё; тут цёпла, сонца пячэ несьцярпіма, а па другі бок—пустэча: адны дзікія скалы, што складаюць верхавіну Яйлы; тут заўсёды дзьмуць паўночна-заходнія вятры. Холадна на гарах ад гэтых вятроў, проста да жывой касьці данімаюць яны чалавека.

Людзі тут ня жывуць: толькі вялікія чароды тлустых авец разгульваюць па гэтых маўкліва-пустынных гарах ды зрэдку дзе-ні-дзе пачуеш насьвістваньні чабана (пастуха) і брахапьне аўчарак. А так—дзіка і пуста.

* * *

Цэлыя цыклі казак і легэндаў злажыў народ пра свае магутныя Крымскія горы.

Кожная назва—гэта скарочаная рэштка якога-небудзь паданьня, легэнды.

І нездарма так вабіць усіх з даўных часоў гэта старонка.

Будучы ў Крыму, хочацца ўсё, абавязкова ўсё пабачыць, пераканацца ў праўдзівасьці ўсяго таго, чым так захапляюцца, што так узносяць у розных спадарожніках і іншых кніжках аб Крыме.

На Ай-Петры мы падымаліся па шосы. Бадай што адным самым цікавым у нашай экскурсіі з боку вартасьці захапленьня гэта і была наша дарога. На працягу 24 вёрст круціцца, як сьлізкі ўюн, гэта дарога. Усё новыя і новыя малюнкі, новыя краявіды. За паласой мяшанага лесу, падобнага на кусгарнікі, адчыняецца паласа найвялікшых бароў з стагоднімі высокімі і стройнымі хвоямі. Нават у нас, у Беларусі, якая так славіцца сваімі барамі, ня знойдзецца падобных у вогуле палянак.

З гэтага прыгожага і прывабнага лесу аўтобус неяк раптам уразаецца ў пустэчу: гэта пачынаецца самы круты пад'ём на гару. Тут ужо адны скалы—вялізарныя, выветраныя каменьні. Дзе-ні-дзе, праўда, пападаюцца яшчэ асобныя карлікавыя дрэўцы, якія, нібы спужаўшыся сваіх суседзяй, ціха і пакорна туляцца да розных прагалін-выбоін сярод скалаў.

Але вось неўзабаве і гэта зьмяняецца. Раптам налятае аднекуль з гор, як чарада каршуноў, сіберны халодны вецер. Пачуцьцё рэзка мяняецца: ты апыняешся ў зусім новым сьвеце. Гэта і ёсьць верхавіна горнага ланцуга.

**Новы „пераможнік“ Крыма.**

Уся гісторыя Крыма—гэта нязьлічоныя войны, перамога аднаго народу другім. Хто толькі не зьяўляўся з народаў гаспадаром гэтай краіны. Ад першых людзей „таўраў“, якіх помніць гісторыя (10-13 стагодзьдзе да Р. Х.), цяпер і сьледу не засталося. Жылі тут у пэўныя часы: скіфы, готы, гуны, рымляне, хазары і ўсе, каму толькі прыходзіла думка папасьці сюды і перамагчы слабейшых, якія ў сваю чаргу ўжо зьяўляюцца пераможнікамі. З пазьнейшых народаў тут вядомы татары і туркі. Іх большасьць. У свой час тут было цэлае царства татарскае. Толькі і іх перамаглі. „Пераможнікам“ на гэты раз была Польшча з Масквой (і тут Польшча ў якасьці ўгнятацеля!). А калі прытупілася зброя польскіх паноў-захопнікаў, Крым цалкам становіцца колёніяй маскоўскіх цароў.

Вось сэнс гісторыі гэтай краіны.

Усе пералічаныя ўладары і „пераможнікі“ Крыма ставілі перад сабою толькі адну мэту: піць кроў з беднага тутэйшага народу, абагачацца за кошт яго і прыродных багацьцяў краіны. Іх лёзунг—„Пасьля іх хоць патоп!“ „Што за справа

---

*) Так даўней называлі Крым, ад назвы першага народа „таўраў“.

ім да бедных тутэйшых людзей", да тых кветак, якія яны топчуць бруднымі сваімі нагамі...

Толькі апошнія гады прынесьлі Крыму новае жыцьцё. Пачынаюць зноў квітнець завялыя кветкі, ажывае творчы дух краіны.

.І вось на самай верхавіне гор адзінока, як бабыль, за тоўстымі муравانымі сьценамі пасяліўся адзін з новых пераможнікаў Крыма. Ён—вучоны, профэсар. На мэтэоролёгічнай станцыі ён вывучае прыроду поўдня. Гэта адзін з тых вучоных, якія цалкам аддаюць сваё жыцьцё на служэньне навуцы, а разам з гэтым і ўсяму чалавецтву. Ня помню добра яго прозьвішча—ні то Ламаносаў, ні то Левандоўскі. Але вобраз гэтага самаахвярнага навуцы чалавека яскрава і точна захаваўся ў маёй памяці.

Даволі пажылы, статны і сымпатычны вучоны зусім спакойным, ціхім голасам папростаму расказаў нам аб тым, як стаіць справа з новай сапраўднай перамогай гэтай краіны.

З таго, што ён сказаў, я спынюся на самым галоўным.

Жыцьцё самай багатай мясьціны Крыма—морскага ўзьбярэжжа—цалкам залежыць ад вады, ад вільготнасьці глебы. Ня будзе даволі вільгаці і вады—самыя багатыя і тропічныя расьліны, квяцістыя сады і плянтацыі засохнуць, памруць.

Да гэтага часу абслугоўваюць морскае ўзьбярэжжа, бэдай выключна, крыніцы і вадаспады. Але іх мала. Крызіс з кожным годам нарастае. Разам з гэтым кожны год вясной уся ўзьбярэжная краіна топіцца ў вадзе. Гэта—вада горных узвышшаў і дажджу. Яна вясною страшэнныміліўнямі імчыцца з гор проста па схілу ў мора, нясучы за сабою гора і бяду насельніцтву. Цэлыя сады, плянтацыі тытуну, асобныя хаты і будынкі зносіць яна ў хвалі мора...



Акраіна гор. Ялты. Уверсе, проста па дарозе, Інстытут сухотнікаў. Сотні людзей кожны год знаходзяць тут паратунак ад сьмерці.

Чалавек ня ў сілах спыніць гэтую стыхію. Тутэйшы жыхар з даўных часоў прывык да такога лёсу і пакорна з больлю ў сэрцы пераносіць ліха, калі яно напаткае яго. Але горш усяго, што такі лівень зносіць нават самую глебу, пакідаючы за сабой голы грунт—камень.

І вось гэты пажылы дзядзька-вучоны, разам з некаторымі іншымі, шмат ужо гадоў абмазгоўвае самае балючае пытань-

не—як умяшацца ў сілы прыроды і накіраваць іх на карысьць чалавека. Ён, як і ўсе сьмелыя людзі-рэволюцыянэры ў навуцы, трымаецца тае думкі, што ня толькі сілы прыроды можна зьмяніць, але можна нават па свайму жаданьню пераліцаваць гэтую прыроду. Сьмелая думка! Ці-ж няпраўда? І цікавая!

Першыя спробы яе ажыцьцяўленьня выразілася ў тым, што на самай верхавіне гор (яна цягнецца паласой да 3-х вёрст ушыркі) зьявіліся пасаджаныя на пустых скалах з наноснай, мізэрнай глебай дрэўцы. Шмат было спрэчак, якія дрэвы лепш усяго будуць расьці на гарах у такім халодным клімаце. Спачатку саджалі, як спробы, нашу паўночную хвойку, з далёкай Архангельшчыны. Не ўдалася. Як ні дзіўна, а калі пасадзілі сваю, крымскую, якая некалькі сажняў ніжэй ад гэтага месца расьце,—яна аказалася больш здольная выносіць суровае жыцьцё.

Цікава было паглядзець гэты невялічкі пробны лясок. Усе дрэўцы (яшчэ маладзенькія), як адно, пахіліліся ў бок мора. І растуць так пахіленымі: гэта ад таго, што дзьмець вечна моцны вецер з другога горнага боку.

Дык вось, калі ўдасца засадзіць усю гару лесам—сьмелая думка вучонага будзе ажыцьцёўлена. Уся вада, сьнягі з гор будуць затрымлівацца ў гэтым месцы і спадаць толькі роўнамерна, паступова, ня прыносячы такіх стратаў і спусташэньняў. Ветры зьменшаць сваю сілу...

І яшчэ адно важнае мерапрыемства наладжвае гэты вучоны. Ён імкнецца выкарыстаць як-мага больш багацьця гары.

Да апошніх часоў гара выключна служыла пасьбішчам. Таптал з году ў год яе мізэрныя травы чабаны з сваімі авечкамі. Бадай што зусім апусьцела гара. Травіца вырастае ня вышэй за 20 см. А калі паспрабавалі нязначную частку агарадзіць і ня пусьціць туды авец—адкуль што і ўзялося! Праз 2-3 гады плянтацыя ажыла і на ёй зьявілася вялізарная густая трава.

Значыць, справа ясная—трэба глянуць на гэту гару гаспадарчым вокам.

Вось толькі практычны бок новае перамогі Крыму, якую нясе Савецкая ўлада тутэйшаму народу пад сьцягам будаўніцтва социялізму. Я зусім ня маю на ўвазе спыняцца на другіх больш дробных момантах, асабліва на іншых навуковых досьледах у галіне атмосфэры, флёры, якія так шырока захапілі творчы дух мясцовых вучоных (напр., разьвядзеньне рознае культуры Нікіцкім батанічным садам).

Век эстэтычнага захапленьня *) Крымам рознымі вучонымі, поэтамі і дзяржаўнымі дзеячамі мінае беспаваротна.



Скала з крутым абрывам над морам. На ёй зьмяшчаецца будынак, празваны „Ластаўчыным гняздом“, гэта таму, што ён прылеплены скраю скалы і нагадвае такім чынам гняздо.

Даўней нашы поэты, а разам з імі і ўся „просвещенная“ расійская грамадзкасьць, старалася бачыць у Крыме толькі „блестящего жука“ **(А. Толстой)** або

*) Захапленьне, якое непасрэдна выплывае з хараства, суладжанасьці, гармонічнасьці.

забываецца, адмяжоўваецца ад усяго, калі наступае

Всей природы обоянье
И невольное слиянье
Уст в нежданный поцелуй.

*Полонский.*

Для нас гэта становіцца сьмешным, яно не знаходзіць ніякага спачуваньня, і сярод усіх тых, якія непасрэдна працуюць над адбудоваю Крыму. Наша савецкая грамадзкасьць пачала захапляцца зусім іншымі жыцьцёвымі бакамі справы. Новы век вымагае толькі працы, творчай працы ў першую чаргу. І гэта праца з гонарам праводзіцца ва ўсім абхваце.

* * *

Экскурсія на Ай-Петры нам так і не ўдалася. Мары аб гэтай чароўнай скале, з якой можна ўбачыць „жывы ўсход сонца“ разьвеяліся, як туман. Каля 3-х вёрст прышлося „грукаць“ па вострых каменьнях да верхавіны Ай-Петры ад станцыі.

Дождж, вецер, люты холад спаткалі мы па дарозе. Шапкі прышлося трымаць у руках, хто шкадаваў, каб не занесла, куды Макар цялят не заганяў. Некаторыя бедныя „насамі заплацілі“ за сваю цікавасьць. А нічога ня зробіш—ідуць і едуць усе... Мы ня першыя і не апошнія.

Яшчэ доўга будуць хадзіць людзі на гэту скалу, да адзінокага кала, што ўбіты ў яе. Будуць захапляцца некаторыя веліччам прыроды. Але ўсё больш і больш гэта захапленьне будзе накіроўвацца ў бок сапраўднай асалоды,—будуць цікавіцца творчым духам, працай і дасягненьнямі тых устаноў і людзей, якія хочуць стаць большымі і сьмялейшымі за прыроду.

**А. Я—віч.**

---

# Казка пра цёмную ноч

**Кляшторны**

* * *

Зашумелі сосны,
Затрашчэлі елі,
Загулі трывожна
Цёмныя бары...
...Вечар...
Па-за садам
Цені дагарэлі...
Недзе плачуць совы,
Недзе гром грыміць.

Навальніца блізка,
Блізка навальніца,
Нават сіні месяц
З хмар не выхадзіў...

У панурай хаце,
Мабыць, дзецям сьніцца
Ў залатых прасторах
Безьбярэжжа ніў.

Вецер хмары гоніць
І стучыцца вецер
Каля цёмнай брамы
Жудасным гасьцём...
А у лесе-лесе,
Дзе дубы гамоняць,
Там свае законы
І сваё жыцьцё.
Позамоўклі галкі,
Ня зьвіняць сініцы,
Па-за пні-калоды
Зайцы палеглі;
Вышла на дабычу
Лютая ваўчыца,
Вышла на дабычу
Ў цёмныя палі...

* * *

Ветраныя стогны
Раскацілі сосны,
Прыкурнула ў завадзь
Соннае трысьцё,
А у чыстым полі,
У прасторах росных
Ёсьць свае законы
І сваё жыцьцё.
Калі стогнуць дрэвы,
Калі плачуць ветры,
Калі цэдзяць змрокі
Дзікую пустош,—
Пад начныя бомы

На шляхох-гасьцінцах
Захаваў злачынца
У кішэні нож...
Зарагочуць ветры
На сівым кургане,
І прылягуць сьцені
Ля крутой гары...
Мо‘ каго ня стане,



Мо‘ каго з дарогі
Не дажджэцца маці
А такой пары.

*
*

Дзеці!..
Усё на сьвеце
Адцьвітае хутка,
Ўсё ідзе й праходзіць
Дарагім гасьцём...
А ў прамінах гэтых,
А у гэтым цьвеце
Ёсьць свае законы
І сваё жыцьцё.
Векавых туманаў
Чорныя абломкі,
Што ў начных разгулах
Маюць свой закон,
Ваша сонца спаліць,
Ваш запал разьвеіць
Па-за мхі-балоты,
Па-за кручы дзён.
У начную сьцюжу,
Калі плачуць ветры,
Калі цэдзяць змрокі
Дзікую пустош,
На шляхі, гасьцінцы
Ня ўзбрыдзе злачынца,
Каб дастаць з кішэні
На прахожых нож!..
...Сёньня стогнуць дрэвы,
І стучацца ветры
Каля цёмнай брамы
Жудасным гасьцём...
Заўтра выйдзем рана,
Выйдземо ў прасторы
Спатыкаць зарніцы,
Спатыкаць жыцьцё.
Паплывуць туманы
Медавым разьлівам,
Птушкі прывітаюць
Сонечную гладзь.
Будзе дзецям люба
Залацістым нівам
І дубам-асілкам
Песьню прасьпяваць...
Зараз навальніца,—
Блізка навальніца,
Нават сіні месяц
З хмар ня выхадзіў...
У панурай хаце,
Мабыць, дзецям сьніцца
Ў залатых прасторах
Безьбярэжжа ніў.





# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Як мы працуем.

*(М. Багушэўскае).*

### 1. Праца не пагоршала.

Пасьля таго, калі добрая палова піонэраў нашага атраду па сканчэньні вучобы вышла з атраду, некаторыя лічылі, што праца атраду значна паслабне. Нават некаторы час гэта апошняе востра адчувалася на нашай працы. Але, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву з боку райбюро, мы з такога становішча вышлі.

Нядаўна нашым атрадам была зроблена экскурсія ў лягер піонэраў гор. Віцебску. Мы добра пазнаёміліся з жыцьцём лягераў, гэта ўзмацніла нашу таварыскую спайку. Атрад мае сваю баскетбольную пляцоўку. У часе заняткаў атрадаў у нас практыкуюцца гульні. Апошняе значна дапамагае ўцягненьню неорганізаваных у нашу сям'ю. Тыя кампаніі, якія высоўваюцца нашай організацыяй (інтэрнацыянальная капейка, агляд атрадаў і інш.), мы выконваем акуратна і ў свой час.

Разам з гэтым ідзе заўсёды падрыхтоўка старэйшых піонэраў для перадачы іх у Комсамол. Мы працуем сумесна з 15-м яўрэйскім атрадам. Гэта значна дапамагае зьнішчэньню сярод дзяцей нацыянальнай розьні. Трымаем таксама сувязь з піонэрамі гор. Масквы. На занятках праводзяцца колектыўныя чыткі газэт, гутаркі партыйцаў і комсамольцаў на палітычныя і іншыя тэмы.

Пры атрадзе маецца дзеткор-гурток, які заняты выданьнем сваёй насьценнай газэты.

### 2. Якія нашы недахопы?

1) Піонэры ў большасьці ня носяць гальштукаў.

2) Наглядаюцца хуліганскія паводзіны з боку хлапцоў піонэраў.

3) Дрэнна працуе група акцябрат.

Уся ўвага нашага атраду ў далейшым павінна быць накіравана на зьнішчэньне гэтых недахопаў.

**Ул. Сянькоўскі.**






## Дапамагаем вёсцы.

У канцы мінулага месяца Ліменскі атрад юных піонэраў пры дзетдоме хадзіў у суседнюю вёску, каб там дапамагчы ў сельскай рабоце сем'ям бяднейшых сялян і чырвонаармейцаў. Сяляне ўсе былі вельмі зацікаўлены такімі добрымі адносінамі піонэраў да працы.

Пасьля працы наш атрад сумесна з атрадам гэтай вёскі (Мірагашчанка) наладзіў агульны сход. Трэба сказаць, што піонэры гэтай вёскі амаль што зусім не працавалі ў атрадзе, яны нават ня ведалі свайго павадыра, бо ён ніколі ня склікаў збораў. Такое становішча прывяло, зразумела, атрад да распаду. На нашым агульным сходзе мы абгаварылі дакладна гэта пытаньне і ўхвалілі ў далейшым трымаць цесную сувязь атраду пры дзетдоме з вясковым атрадам.

У канцы нашага сходу з прамовай выступіў стары селянін. Ён выносіў шчырую падзяку піонэрам за тое, што апошнія значна дапамаглі бяднейшаму сялянству вёскі ў часе самай гарачай работы. Гэтым самым піонэры апраўдалі сваю назву—юных ленінцаў. Тут-жа на сходзе прысутнічала шмат сялян, якія з цікавасьцю выслухвалі прамовы і выказваліся самі. Піонэры абяцалі сялянам і ў далейшым аказваць сваю дапамогу, якая будзе ім па сіле.

**Чарняк.**

## Першы вопыт.

Краязнаўча-натуралістычная праца ў Аршанскай аб'яднанай піонэр-арганізацыі досыць разгорнута.

Назіраецца зацікаўленасьць гэтай працай сярод піонэраў і наогул сярод неарганізаванай масы дзетвары.

Пры школах і атрадах (большай часткай) маюцца гурткі. Нават маецца адзін гурток пры атрадзе „Прац. асьветы № 8“, які атрымаў падзяку за добрую працу за подпісам прэзыдэнта акадэміі навук.

Па гэтаму вопыту РБ ЮП склікала конфэрэнцыю з пытаньнем аб краязнаўча-нат. працы і інформацыяй аб працы гуртка пры атрадзе № 8.

Конфэрэнцыя прайшла досыць жыва. На конфэрэнцыі прысутнічала больш 40 чалавек піонэраў і частка неарганізаванай дзетвары. Конфэрэнцыя намеціла шляхі далейшай працы і выбрала гар. бюро юных натуралістых з 3-х сяброў і 2 кандыдатаў, якое будзе працаваць пры піонэрскім габінэце.

**Піонэр.**

## Памаленьку выбіваемся з цемры.

*(В. Караваева. Рудзенскага с.-с.).*

Караваева—гэта вялікая вёска, у ёй налічваецца каля 250 двароў. Ня гледзячы на вялікі лік насельніцтва, у вёсцы пануе яшчэ значная цемра. Да апошніх гадоў з нашай вёскі ніхто не адважваўся падавацца ў навуку. Сяляне зусім кепска адносіліся да жаданьня дзяцей вучыцца.

Цяпер мы наглядаем значнае пасоўваньне наперад. У сямігодцы цяпер вучыцца 5 чалавек. Разам з гэтым значна папоўніўся лік вучняў у пачатковай школе. У вёсцы зьявіліся таксама і піонэры—гэта вучні сямігодкі. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе можна будзе арганізаваць свой атрад.

**А. Б.**






# ДВА ДНІ НА СЬВЕЖЫМ ПАВЕТРЫ.

*(Дзіцячая пляцоўка пры Чырвона-заводзкім райкоме партыі. Гор. Харкаў).*

Доўга зьбіралася наша пляцоўка наладзіць экскурсію. Шмат было спрэчак, розных прапаноў, плянаў... Урэшце ўсё-ж такі дагаварыліся.

І вось аднэй раніцай, а 7 гадзіне, усе былі ў поўным зборы. Накіраваліся да Паўночна-Данецкага вакзалу. Быццам „мяшочнікі“ часоў грамадзянскай вайны, пачалі мы наперагонкі тышчыцца ў вагоны разам з булкамі хлеба, з кошыкамі і іншымі рэчамі.

Неўзабаве толькі чырвоныя істужкі ўзьвіваліся ў паветры з вакон вагонаў. Гэта нашы пасылалі разьвітаньні Харкаву.

* * *

Пасьля прыезду ў вызначанае месца, мы накіраваліся проста да рэчкі. Тут неўзабаве ўтварыўся цэлы лягер. Адна за другой расьлі палаткі. Затрашчэлі сухія галінкі на агні. Закіпела „наша піонэрская каша“.

Зазьвінелі лыжкі і талеркі—пачалася вячэра. Каша сягоньня была смачнейшая, чым калі. Аж насы гнуліся ў дзяцей—гэтак уплятай яны адзін перад другім свае порцыі. Пасьля вячэры ўсе разам спусьціліся да рэчкі і памылі пасуду.

А калі толькі добра сьцямнела, усе пачалі зьбірацца спаць. Толькі-ж спаць так і не ўдалося. Усе паселі вакол агню і з увагай слухалі прымацаванага да нас партыйца, які апавядаў аб тым, як ён атрымаў ордзен чырвонага сьцягу. Гаварыў ён аб тым, як яны—комсамольцы—наступалі тады на бандытаў, як бандыты катавалі комуністых.

Навакол ціха. Ніхто ня шасьне, усіх увага аддадзена толькі апавяданьню партыйца. А тымчасам надыходзіць цёмная вільготна-халодная ноч. Разышліся ўсе па палатках.

Заснуў наш лягер. Толькі аднастайныя сьвісткі вартаўнікоў парушалі цішыню.

* * *

З усьмешкамі на вуснах усхватваюцца раненька дзеці. Трохі холадна было, але нічога.

— А мне было цёпла. А я сьцягнуў з Яшкі коўдру—вось і нагрэўся,—гаварылі весела між сабою дзеці.

А калі добра ўвагрэла сонца, усе гуртам пабеглі купацца. Як прыемна цяпер пахлёпацца ў вадзе.

— Бр-р-р-р, холадна! Лезь скарэй!

Пасьля сьнеданьня—хто куды. Хто сьпявае, хто гуляе.

Пагулялі добра, павесяліліся, набраліся сьвежае сілы і ўвечары ізноў з тымжа самым настроем, вясёлым і жыцьцярадасным накіраваліся дамоў.

Доўга яшчэ гаварылі на пляцоўцы аб экскурсіі, аб розных здарэньнях і прыгодах. А ўсё-ж такі было даволі весела. Неўзабаве, думаем, ізноў паехаць туды. Там сонца, вада, там лес—усё, што карысна для здароўя.

**З. Біленка.**

(Наш дапішчык).



# Кастусь Каліноўскі.

*(Юбілейны фільм да 10-ці годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі).*

Тысяча восемсот шесьцьдзесят трэці год.

У гэтым годзе адбылося вялікае паўстаньне за незалежнасьць Польшчы, Беларусі і Літвы. Паўстала перш за ўсё польская шляхта. Паўстаўшы, яна жадала скінуць з сябе расійскага цара і самастойна ўладарыць Польшчай. Але жаданьне польскай шляхты было ня толькі, каб самастойна ўладарыць Польшчай, а і далучыць да сябе мужыцкую Беларусь і мужыцкую Літву.

А беларускі мужык пакутваў і ад расійскага цара і ад польскага пана. Бізуны сьвісьцелі над беларускім прыгонным мужыком з двух бакоў. Расійскі цар браў мужыкоў у салдаты, панскі цівун прымушаў працаваць з усходу аж да заходу сонца. Нават і песьня ў нас, у народзе, з часу таго засталася, якая гаворыць аб цяжкай працы прыгоннага мужыка. Вось яна:

„Ах ты, сонца сонейка!
„Я на цябе віну маю,
„Віну маю вялікую:
„Што ты раненька усходзіш,
„Што ты позьненька заходзіш!“
— Ах ты, дзеўка-дзеванька!
— Ня вінуй-жа ты мяне,
— *Віную-жа свайго пана:*
— *Хоць я раненька ўзыйду,*
— *Цябе на ніўцы знайду.*
— *Хоць і позьненька зайду,* —
— *Цябе на ніўцы пакіну!*

Значыць, з панам паўставаць, змагацца за незалежную, самастойную панскую

Польшчу беларускаму мужыку ня трэба было. Карыстаючыся непакоем у краіне, трэба было дзейнічаць іначай, змагацца за штосьці другое. А змагацца было за што,—за чырвоную рабоча-сялянскую самастойную Беларусь, у якой-бы і цара ня было і пана ня было.

І вось, разам з польскім паўстаньнем 1863 году, пачынаецца паўстаньне на Беларусі за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне Беларусі.

— Прэч і цара, прэч і пана!—гаварылі тады па вёсках.

Павадыром паўстаньня 1863 г. на Беларусі быў адважны малады рэволюцыянэр, гэрой нашага народу—Кастусь Каліноўскі.

Цяжка было яму змагацца супроць двух сіл: супроць расійскага цара і супроць польскіх паноў, якія ўвесь час дамагаліся далучэньня Беларусі да Польшчы.

Ва ўздоўжкі і шыркі па ўсёй чыста Беларусі раскінулася паўстаньне. Ад лясоў Горадзеншчыны да палёў Магілеўшчыны, ад вазёр Віцебшчыны да балот Мазыршчыны і Гомельшчыны паўставалі сяляне супроць царскага войска і сваіх паноў.

У агні паўстаньня, не спадзяючыся ні на кога, Кастусь Каліноўскі абвяшчае сябе Чырвоным Дыктатарам Беларусі і Літвы. Палаюць панскія палацы, партызаны „Чырвонага Жонду“ выганяюць з Беларусі царскае войска, Кастусь Каліноўскі паслабляе царскую казну, забіраючы з казначэйстваў грошы для паўстаньня, у Беластоку выдаецца газэта Кастуся Каліноўскага на беларускай мове „Мужыцкая праўда“, тысячамі распаўсюджваюцца адозвы да сялян „Яські, гаспадара з-пад Вільні“,—адозвы Кастуся Каліноўскага з заклікам не зьмяншаць барацьбы.

Цар, спужаўшыся паўстаньня, пасылае на Беларусь імпэрскага ката-генэрала Мураўёва, празванага за сваю дзейнасьць Мураўёвым Вешацелем. З Мураўёвым высылаецца мноства войска. Угледзеўшы, што вісьне над галовамі польскіх паноў, у адплату за паўстаньне, царская пятля, польскія паны пачалі схіляць свае галовы, каючыся ў віне перад царскім тронам, просячы міласьці пакінуць іх жывымі...

Астаўся змагацца адзін-адным беларускі мужык, на чале з сваім гэроем Кастусём. Паны, просячы міласьці, здраджвалі паўстанцам, выдаючы іх павадыроў Мураўёву. Каліноўскі сам, хаваючыся пад чужым прозьвішчам, арганізоўвае тэрор здраднікам. Утвараецца Рэволюцыйны Трыбунал і атрады кінжальшчыкаў. Сродкаў для паўстаньня няма.

Мураўёў зразумеў, што сапраўдны вораг ня панства, ня шляхта, а паўстаўшы мужык з Кастусём на чале. Утвараюцца спэцыяльныя камісіі дзеля адшуканьня павадыроў паўстаньня. У Менску выкрываецца „рэволюцыйны аддзел“. Адзін з арыштаваных, Парафіяновіч, выявіў



**Працуе на пана.** *(З фільмы „Кастусь Каліноўскі“).*

маладушша. За абяцаньне прабачыць яму віну—Парафіяновіч здраджвае Кастусю.

Каліноўскага арыштоўваюць у Вільні 7 студзеня 1864 году.

А роўна праз два месяцы арышту, адзіноты, Кастуся вядуць на эшафот, на шыбеніцу, і пятля мураўёўскага ката абвівае шыю Вялікага Паўстанца 1863 г.

Каліноўскі паходзіць з дробнай шляхты. І калі на эшафоце прокурор чытаў: „шляхціц Кастусь Каліноўскі прысуджаны да сьмертнай кары“, Кастусь абарваў прокурора:

— У нас няма шляхты, мы ўсе роўныя“...

Апошнімі словамі Кастуся над пятлёю былі:

— Я веру ў сілу народа!

Гэта было сёмага красавіка тысяча восемсот шэсьцьдзесят чацьвертага году. Кастуся павесіў царскі кат—гэнэрал Мураўёў.

* * *

Кастусь верыў у сілу народа! І вера яго спраўдзілася! А цяпер, калі ўлада знаходзіцца ў руках рабочых і сялян і працоўныя Савецкай Беларусі ўжо дзесяць год таму назад скінулі і цара і пана, цяпер ствараецца вялікі помнік аб гэрою, Вялікаму Паўстанцу — Кастусю Каліноўскаму, кінофільм „Кастусь Каліноўскі“, у якім праходзяць усе ўчынкі і змаганьне Кастуся.

У дні сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі, фільм „Кастусь Каліноўскі“ будзе дэмонстравацца ва ўсіх кінотэатрах Беларусі.

На нашых здымках асобныя моманты з фільму „Кастусь Каліноўскі“.

**Іл. Барашка.**

---

# З жыцьця дзяцей усяго сьвету.

## З ДАЛЁКАЙ АФРЫКІ.

Яшчэ адзін прыклад таго, як уціскаюць дзяцей у капіталістычных краінах. На гэты раз гутарка ідзе пра Алжырыю, пра Мароко, дзе гаспадараць французскія буржуі, якія прынесьлі сюды сваю „культуру і цывілізацыю“... Усе без выключэньня, і мужчыны, і кабеты, і дзеці, робяць тут на „пана“, буржуя-капіталістага ці буржуя-фэрмэра—гэта ўсё роўна. І, працуючы за маленькую мізэрную аплату, ня маюць у вялікіх гарадох нават уласнага куточка, дзе можна было-б паспаць уначы. Спяць на вуліцах, на пляцоўках. Шмат дзяцей працуюць у фэрмэраў, або ў гаспадароў у якасьці пастухоў і г. д., зарабляючы за дзень (аж да захаду сонца) поўфранка (5 капеек), а калі „пан“ разгневаецца, можа і пабіць, і есьці ня даць. Дарослыя дзеці, якія працуюць на полі, тыя зарабляюць трохі больш—2-3 франкі на дзень. Шмат дзяцей, шукаючы лягчэйшай працы, кідаюць галодных бацькоў сваіх ды йдуць у горад, дзе або чысьцяць боты на вуліцах, або пераносяць на плячох розныя клумкі пасажыраў і г. д.

Шмат таксама працуе на фабрыках або ў якасьці хатніх работнікаў. На фабрыках працоўны дзень цягнецца 12—14 гадзін, аплата зусім мізэрная.

Ці мала таксама вясковых дзяўчат перайшло ў горад, дзе яны працуюць у якасьці хатніх работніц у французскіх буржуяў. Плата іх: 30—40 франкаў.

Школа для бедных дзяцей—гэта навіна, асабліва добрая школа. Звычайна, для сваіх дзяцей буржуі пабудавалі школы, а што ім да мясцовага насельніцтва? Ёсьць некалькі арабскіх школ, але няпрыступныя яны для ўсіх дзяцей, бо даводзіцца шмат плаціць за навучаньне. Дый сама школа там зусім не такая, як у нас. Не хапае кніг, навуковых прылад. Цяжка ў ёй вучыцца. Вось чаму большасьць дзяцей прымушана заставацца цёмнымі і няпісьменнымі.

# ЯК МЫ ПРАВЯЛІ МДТ.

(*Ліст з Аўстрыі*).

Дарагія таварышы!

Сёньня, у апошні дзень МДТ мы шлем вам братэрскае прывітаньне. Ня гледзячы на тое, што ў гэты тыдзень мы ня можам, як вы, запрасіць да сябе чужаземную піонэр-дэлегацыю, мы ўсё-ж такі адчуваем сябе цесна зьвязанымі з дзецьмі ўсяго сьвету, якія змагаюцца за сваё вызваленьне, а асабліва з вамі, дзецьмі вольнай Савецкай краіны, дапамагаючымі будаваць социялізм.

Дарагія таварышы, мы сьвяткуем першы МДТ у Аўстрыі. У гэты тыдзень мы паспрабавалі, ня гледзячы на ўсе нападкі з боку настаўнікаў у школах і з боку паліцыі, разгарнуць шырокую кампанію па ўцягненьню ўсіх дзяцей у свае шэрагі. На дзіцячых сходах мы стараліся, каб усе дзеці далучаліся да запатрабаваньняў чырвоных піонэраў. Мы таксама стараліся шляхам агітацыі ў провінцыі палепшыць і разьвіць нашу організацыю.



**АНГЕЛЬСКІЯ ПІОНЭРЫ** (СВАЙМУ БУРЖУАЗНАМУ ЎРАДУ, ЯКІ НЯ ПУСКАЎ ІХ У СССР І НЯ ВЫДАЎ ПАШПАРТОЎ). ПЕРАДАЙЦЕ ЎСІМ ВАШЫМ БУРЖУЯМ, ШТО НАМ НАЧХАЦЬ НА ВАШЫ ПАШПАРТЫ—ДЛЯ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗЛУЧНАСЬЦІ ЯНЫ НЕ ПАТРЭБНЫ.

Нашу адданасьць барацьбітом-рабочым мы паказалі ў Леапольдорфе, дзе ў часе тыднёвай забастоўкі рабочых будаўнікоў (яны патрабавалі падвышэньня заработнае платы) наладзілі дэмонстрацыю і сабралі грошы на карысьць забастовачнага Камітэту.

Заўтра ў ваколіцах Вены мы наладжваем вялікае дзіцячае гуляньне, дзе пакажам свае дасягненьні ў галіне спорту і будзем заклікаць да сябе і ўцягваць новых сяброў.

Дарагія таварышы, мы чулі, што ў МДТ да вас прыедуць дэлегацыі ангельскіх, нямецкіх і францускіх піонэраў. Калі-б мы пабылі ў вас, мы змаглі-б даведацца аб тым, як вы жывеце, але цяпер, асабліва пасьля МДТ, мы просім вас чым часьцей пісаць нам і, такім чынам, устанавіць цесную сувязь.

Мы ведаем, што капіталістыя ўсяго сьвету рыхтуюцца напасьці на СССР. Ва ўсіх буржуазных школах, а таксама і ў кніжках апавядаюць хлусьню і розную няпраўду аб Савецкай краіне. Гэта робіцца для таго, каб затуманіць галовы пролетарскіх дзяцей і выхаваць з іх ворагаў СССР.

Мы будзем напагатове. Мы пастараемся, каб ніхто не апавядаў хлусьні аб Савецкай краіне, і разам з Комуністычнай партыяй і Комсамолам будзем будаваць социялізм.

Дарагія таварышы, гэты ліст мы хацелі зацьвердзіць на сходзе ў МДТ, але зрабіць гэта нам не ўдалося: аўстрыйскі рэакцыйны ўрад забараніў усе піонэрскія сходы. З гэтага часу за намі пачалі сачыць, паліцыя забараніла організацыю Чырвоных піонэраў і спадзяецца гэтым напужаць аўстрыйскіх дзяцей. Мы, Чырвоныя піонэры, ані не баімся гэтага і будзем змагацца разам з рабочымі, ня гледзячы на ўсялякія ўціскі з боку буржуазнага ўраду.

Да змаганьня за справу рабочае клясы, будзьце гатовы!

**Піонэры гораду Вены.**




### На разьведку.

Гульню лепш усяго наладзіць увечары між двума зьвеньнямі. Для гульні трэба выбраць якую-небудзь перасечаную прагалінай лясістую мясцовасьць. Ад якога-небудзь цэнтральнага пункту разайдзецеся ў процівалеглыя бакі, напр., на 1—$1\frac{1}{2}$ км. Потым пачынайце сходзіцца.

Задача гульні складаецца з таго, каб першым згледзець ворага. Вядома, усёю кучаю ісьці ня раім. Ідзеце парамі і па адным. Трымайце паміж сабою сувязь. Добра прыстасоўвайцеся к мясцовасьці, г. ё. скарыстоўвайце ўсё тое, дзе можна схавацца: ямы, канавы, зарасьліны лесу, каб няпрыкметна пасоўвацца наперад. Памятайце аб маскіроўцы. У якасьці наглядальных пунктаў скарыстоўвайце высокія дрэвы.

Калі толькі ўбачыце ворага—зараз-жа давайце сьвісток. На гэтым гульня канчаецца. Можна прапусьціць ворага наперад, схаваўшыся ад яго на дрэвах ці штучна стуліўшыся ў складках мясцовасьці, а потым весьці нагляданьні за ім і, нарэшце, атакаваць яго ззаду.

### Варожы тэлеграф.

Клубок тонкіх вяровак у вас заўсёды знойдзецца, а гэта ўсё, што трэба для такой гульні. Клубок вяровак і жаданьне гуляць. Апошняга-ж у вас хоць адбаўляй.

Працягнеце вяроўку ўпоперак лесу, на працягу 400—500 крокаў. Замаскіруйце яе па магчымасьці добра дзярнінамі, лістамі і травою. Няхай адно зьвяно будзе вартаваць гэты тэлеграф, а два другія павядуць на яго наступ. Нападаючыя не павінны ведаць, дзе знаходзіцца вяроўка, ім даецца толькі напрамак, у якім разьмешчана лінія тэлеграфу. Іх задача—адшукаць тэлеграф, перарэзаць яго і ў даказацельства ўзяць з сабою кавалак вяроўкі. Прычым, калі атакованы будзе ў 10-ці кроках ад абараняючага, дык ён лічыцца забітым.

### Адшукай ворага.

Ці гулялі вы калі-небудзь у Апанаса? Вядома, гулялі. Паспрабуйце пагуляць у тую-ж гульню, толькі не на пыльным дварэ, а ў невялічкім ляску. Няхай адно зьвяно схаваецца ў гэтым ляску, а другое пачне яго шукаць. Потым зьвеньні мяняюцца ролямі.

Зьвяно, якое знайшло ў працягу вызначанага часу большы лік ворагаў, выйграе. Каб схавацца ад ворага, маскіруйцеся, гэта значыць, прыкрывайце сябе травою, галінкамі і лісьцямі.

### Па знаках.

Гэта было на пагулянцы. Да лягеру было недалёка, і павадыр прапанаваў пагуляць на шляху ў наступную гульню. Адно зьвяно ён хацеў паслаць наперад і прапанаваў яму пакідаць на сваім шляху знакі. Па гэтых знаках мы павінны былі знайсьці ліст, схованы зьвяном дзесьці па дарозе, а потым і лягер.

Зьвяно трымала ўмоўныя знакі і хутка схавалася за паваротам дарогі. У нашым

распараджэньні было 15 хвілін, і мы іх скарысталі на вывучэньне ўмоўных знакаў, якія павадыр намаляваў на пяску. Гэтыя знакі абазначалі розныя паняцьці:

Сюды ісьці.
Ліст у трох кроках па напрамку стралы.
Па гэтым шляху не хадзі.
Я пайшоў да хаты.
Шлях у лягер.
Там добрая вада і г. д.

Калі знакі былі ўсвоены, мы накіраваліся ў дарогу. Знакі мы знаходзілі даволі лёгка. Іх малявалі на дарозе, складалі з голейка, з каменьняў. Ліст мы хутка знайшлі ў 10-ці кроках ад дарогі на старым карчы. Да лягера дайшлі няпрыкметна.

Гэтыя знакі надалей намі вельмі часта з посьпехам дапасоўваліся. Мы маглі цяпер лёгка высылаць наперад за сябе разьведчыкаў, і заўсёды знаходзілі шлях, па якому яны ішлі. Таварыш, які адставаў, ішоў сьмела па нашых знаках, не баючыся згубіць нас.

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**Іван Франко. ВАРОНЫ і СОВЫ**. Казка. Пераклад з украінскай мовы *А. Якімовіча*. Выдавецтва „Чырвоная Зьмена". Стар. 46, цана 25 к.

Іван Франко—гэта адзін з выдатных украінскіх пісьменьнікаў - адраджэнцаў. Шмат напісаў ён твораў, багатых па зьместу і прыгожых па форме, пра свой бедны загнаны ў той час народ. Па сіле сваёй творчасьці і па характары яе ён набліжаецца да такіх нашых пісьменьнікаў, як Я. Купала і Я. Колас. Але асабліва ўзбагаціў ён сваімі творамі украінскую дзіцячую літаратуру.

Адзін з такіх буйных яго твораў мы і маем выданым у перакладзе на нашу мову. Бязумоўна, сучасных, блізкіх нам, комуністычных, у поўным сэнсе гэтага слова, думак цяжка знайсьці ў творах гэтага пісьменьніка. Гэта тлумачыцца тым, што жыў ён у такі час, калі вольнае слова пісьменьніка было забаронена царскай цэнзурай. Пісьменьнік ня мог выказваць усяго таго, што хацеў. Гэта апошняе часта прыводзіла пісьменьніка да выбару такіх формаў пісаньня, якія-б дазвалялі глядзець на твор кожнаму пасвойму.

Такая форма, зразумела, ужыта ім і ў сваёй казцы „Вароны і Совы". Бязьвінныя для царскай цэнзуры гэроі-жывёлы або птушкі хаваюць у сабе сапраўды настаяшчых гэрояў з людзей. Пад воронамі сапраўды лёгка разумець тых-жа бедных людзей, за кошт якіх кормяцца і жывуць дармаеды-совы. І толькі агульнымі сіламі і хітрыкамі воронам усё-ж такі, урэшце, удаецца перамагчы соваў: зьнішчыць іх агнём і дымам, каб больш і заводу іх не засталося.

Але ня толькі думка казкі цікавіць чытача. Самы зьмест, разгортваньне апавяданьня, мова—усё гэта проста захапляе сваёй навізной, багацьцем думак і вобразнасьцю.

Асноўны зьмест казкі наступны:

На нарадзе, скліканай старшынёй варон для абмеркаваньня пытаньня аб адносінах соваў да іх, выступаюць воранячыя дараднікі. Кожны з іх пасвойму раіць, як збавіцца ад соваў. Але самая цікавая прамова робіцца старэнькім дараднікам Каркайлам. Ён апавядае дакладна ўсю гісторыю, адкуль узялісе спрэчкі і нянавісьць між імі і совамія Ідзе цэлы шэраг захапляючых чытача. апавяданьняў. Пасьля гэтага ён раіць, як вызваліцца ад уціску соваў. Рада яго зацікавіла старшыню. Робяць усе так, як кажа Каркайла: вылятаюць усе з гэтага лесу, а яго, Каркайлу, выкідаюць з гнязда, зьбітага да поўсьмерці. Справа, урэшце, прымае добры паварот. Хітрыкі Каркайлы ўдаюцца. Вароны дарэшты зьнішчаюць сваіх ворагаў.

Гэта канва, на якой вышыты цікавыя ўзоры казкі.

Казка Франко больш усяго падыходзіць для дзяцей сярэдняга і малодшага ўзросту. Але разам з гэтым і дарослы не бяз цікавасьці прачытае яе. Шкада толькі, што надрукавана яна ня зусім добрым шрыфтом: замалы і неразборчывы для юнага чытача. Гэткую памылку трэба будзе ў другім разе абавязкова паправіць. Малюнкі ў тэксьце досыць жывыя і мастацкі зробленыя.

Кніжка заслугоўвае самага шырокага распаўсюджаньня сярод нашых дзяцей.

**Чытач.**




### Задачы—жарты.

1. Якія трэба ўзяць дзьве ноты, каб атрымаць слова „даволі“?

2. Які склад з 2-ух літар трэба „падставіць пад нос“, каб атрымаць частку бота?

3. Колькі разоў трэба ўзяць і якую літару, каб атрымаць зерня?

### Жарт.

**Суседзі.** Першы:—Дзіўная рэч! Вашы куры пераляцелі праз плот і пашчыпалі мае кветкі!

Другі:—Нічога тут дзіўнага, суседзе, няма! Вось каб вашы кветкі пераляцелі праз плот і пашчыпалі маіх курэй—гэта было-б дзіўна!

### Угадаць дзень нараджэньня.

„Таварышы, не гаварэце ліка месяца, на які прыходзіцца дзень вашага нараджэньня.—Памножце гэты лік на 2, к здабытку дабаўце лік 5, суму памножце на 5, да новага здабытку дабаўце лік, які абазначае парадкавы лік месяца, у якім вы нарадзіліся (адзін—студзень, два—люты і г. д.). Цяпер, хто радзіўся ў верасьні і раней, той з атрыманага ліку вылічае—25, а хто ў кастрычніку і пазьней,—34, тады астанецца лік з некалькіх цыфраў—назавеце іх, у адказ я скажу, калі вы радзіліся. Напрыклад, ты назваў лік 106, ты радзіуся 10-га чэрвеня“.

Вось якія былі арытмэтычныя дзеяньні; хто радзіўся 10-га чэрвеня, той $10 \times 2 = 20$; $20 + 5 = 25$; $25 \times 5 = 125$; $125 + 6$ (месяц) $= 131$; $131 - 25 = 106$; лік 6 зьяўляецца парадкавым лікам месяца, а 10—дзень нараджэньня.

### Якія мэталі ёсьць у гэтых выразах?

1. Кола вашай павозкі папраўлена.

2. Цяпер хворага лячыць проста: льжэць пачало яму.

3. Усё рабро каня было параламана.

### Гульні з запалкамі.

1. Бярэм скрынку запалак, высыпаем іх на стол, робім такія фігуркі (малюнак 1) і прапануем таварышам пераложыць пяць запалак так, каб атрымалася 2 квадраты.

2. Пераложыць (малюнак 2) дзьве запалкі так, каб атрымалася пяць роўных квадратаў.


Мал. 1.


Мал. 2.

### Як адгадаць задуманы лік.

Павадыр (або хто-небудзь з таварышоў) прапануе ўсім граючым задумаць які-небудзь лік: „Задумалі? вылічце з яго адзінку, рэшту памножце на 2, а з атрыманага здабытка зноў вылічце адзінку, цяпер да рэшты прыкладзеце задуманы лік. Скажэце: якая сума цяпер у вас атрымалася?“

Усе граючыя даюць адказы; адгадчык іх запісвае і пасьля кожнаму гаворыць, які лік ён задумаў.

Напрыклад, хто-небудзь задумаў 5, вылічыць адзінку—будзе чатыры: памножыць на 2 раўняецца 8: вылічыць адзінку—будзе 7, дабавіць задуманы лік 5—будзе 12. Адгадчык кажа: „Ты гаворыш, што ў цябе адказ атрымаўся 12, а ты задумаў—5“.

Тут няма ніякага штукарства, давайце паўторым. Ізноў атрымаецца верна.

Для таго, каб адгадаць задуманы лік трэба прылажыць да тае сумы, якую назавуць, лік 3, пасьля ўсё падзяліць на 3, тое, што атрымаецца ад дзяленьня—і ёсьць задуманы лік. Напр., піонэр сказаў, што ў яго атрымалася 12, адгадчык сам пра сябе робіць 3 такія вылічэньні: 12 плюс 3 раўняецца 15; 15:3=5; якраз лік 5 быў задуманы.

---



Менск, 1-ая дзярж. друкарня. Заказ № 2987. Галоўлітбел № 26109

ЦАНА 12 КАП.



**У ВЁСЦЫ.** (Лінагравюра **Мурашова** па малюнку мастака **О. К.**).